# ЗВЯЗДА

14 жніўня 1996 г.
серада, № 202 (23005)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

## РОЗГАЛАС

### ПРАГНОЗЫ НЕ АПРАЎДВАЮЦЦА. НА ЖАЛЬ.

**Як паведамілі «Звяздзе» ў Рэспубліканскай службе занятасці насельніцтва, за мінулы ліпень колькасць афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных павялічылася на 3,5 тысячы і склала, такім чынам, 180.390 чалавек. Сумна, але факт: паводле шматлікіх прагнозаў, «выйсці» на гэтую лічбу Беларусь павінна была толькі ў канцы бягучага года.**

Па падліках супрацоўнікаў службы занятасці, сёння без працы застаецца 3,24 працэнта ўсяго працаздольнага насельніцтва рэспублікі. Па-ранейшаму найбольш напружаная сітуацыя на рынках працы Мінскай, Гродзенскай і Гомельскай абласцей, дзе гэтыя паказчыкі складаюць 4,08, 4,06 і 3,85 працэнта адпаведна. Самае лепшае становішча ў сталіцы: тут незанятымі з'яўляюцца 1,79 працэнта насельніцтва.

Між іншым, яшчэ адна інфармацыя для роздуму: зараз сярэдні памер дапамогі па беспрацоўю складае ні больш, ні менш як 130,3 тысячы рублёў.

**Сяргей ГРЫБ.**

### РЭФЕРЭНДУМ АДБУДЗЕЦЦА, АЛЕ КАЛІ?

**Ужо вядома, што дадатковыя паўторныя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета адбудуцца 24 лістапада. Гэту дату вызначыла Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў. Калі ўлічыць, што Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка планує правядзенне рэферэндуму таксама ў лістападзе, то апошні месяц восені абяцае быць лёсавызначальным для краіны.**

— Сапраўды, кіраўнік дзяржавы звярнуўся ў Вярхоўны Савет з просьбай назначыць усенароднае галасаванне на 7 лістапада, — сказаў першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета Васіль Новікаў. — Аднак ніякія дакументы ў парламент пакуль не прадстаўлены. Ёсць толькі абяцанне, што праект новай Канстытуцыі краіны будзе прапанаваны дэпутатам для азнаямлення да сярэдзіны верасня.

У адпаведнасці з законам, толькі Вярхоўны Савет Беларусі можа назначыць дату правядзення плебісцыту. Але працэдура вызначэння аптымальнага дня для ўсенароднага галасавання можа аказацца няпростай, паколькі да 7 лістапада, на думку В. Новікава, грамадзяне могуць не паспець азнаёміцца з праектам новай Канстытуцыі, прапанаванай Прэзідэнтам. Таму першы віцэ-спікер не выключае таго, што Вярхоўны Савет можа зацвердзіць больш познюю дату правядзення рэферэндуму.

**Валянціна МЕНШЫКАВА, БЕЛТА.**

### ЧАС ЗБОРУ ЖУРАВІН ЯШЧЭ НЕ НАСТАЎ

**З мэтай захавання і рацыянальнага выкарыстання раслінных рэсурсаў брусніц і журавін распараджэннем старшыні Мінскага аблвыканкома на тэрыторыі вобласці ўстаноўлены тэрміны збору брусніц — з 17 жніўня, журавін — з 7 верасня бягучага года.**

Як вядома, у наш нялёгкі час колішнія ласункі ў выглядзе грыбоў ды ягад для многіх сталі не толькі добрай харчовай падтрымкай, але і неблагім сродкам папаўнення сямейнага бюджэту. Таму ў лес зараз ездзяць не як на адпачынак, спалучаючы яго з карысная справай, а літаральна як на заробкі: пяцілітровае вядро тых жа чарніц зусім нядаўна каштавала на Камароўскім рынку сталіцы 50 тысяч рублёў — што і гаварыць, добрая прыбаўка да пенсіі вясковых жанчын, чым спрактыкаваным рукам набраць за дзень 10—12 літраў ягад зусім няцяжка. Зразумела, тут не абыходзіцца і не абыходзіцца без сквапных людзей, якія не шкадуюць ні зялёных ягад, ні наваколля. Каб хоць нейкім чынам спыніць гэтае дзікунства, нарыхтоўчым арганізацыям і іншым юрыдычным асобам забаронена праводзіць нарыхтоўку і закуп брусніц і журавін раней устаноўленага тэрміну. Забаронены таксама да вышэйназваных тэрмінаў і продаж гэтых ягад на рынках і ў іншых месцах. Але зазначым: на Камароўцы брусніцамі ўжо гандлююць...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### ВАНДАЛ — ЗА КРАТАМІ

**Як ужо паведамлялася ў друку, у Мінску была апаганена праваслаўная святыня — Свята-Духаў Кафедральны сабор.**

Супрацоўнікамі крымінальнага вышуку затрыманы адзін з удзельнікаў гэтай акцыі вандалізму. Ім аказаўся навучэнец 1 курса ПТВ № 24 г. Мінска Сяргей Багатыроў, 1979 года нараджэння.

Трое іншых падлеткаў, якія прымалі ўдзел ва ўчыненні злачынства, схаваліся ў суседніх краінах СНД. Цяпер праводзіцца іх вышук.

С. Багатырову прад'яўлена абвінавачанне ва ўчыненні злачынства па арт. 201 ч. 2 КК Рэспублікі Беларусь (злоснае хуліганства). Санкцыя артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе 5 гадоў пазбаўлення волі.

**Аляксей ТАРАНАЎ,**
**старшы памочнік Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь.**

### ГРЫБНЫ ЎРАДЖАЙ «СВЕЦІЦЦА». ШТО РАБІЦЬ?

**Перш чым праглынуць смачны кавалак, мабыць, нямногія з нас задумваюцца над тым, што мы адпраўляем у рот. Аднак часам не грэх было б гэта зрабіць. Нярэдка грамадзяне, якія звярнуліся ў пункты радыеметрычнага кантролю для праверкі ўласнага ўраджаю, упэўніваюцца ў яго, мякка кажучы, небяспецы для ўласнага здароўя.**

Так, за першае паўгоддзе бягучага года ў аддзеле радыяцыйнай гігіены Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі былі даследаваны 1873 пробы прадуктаў, прынесеных для праверкі прыватнымі асобамі, і 50 з іх не адпавядалі рэспубліканскаму дапушчальнаму ўзроўню (РДУ) па ўтрыманню ў іх радыенуклідаў.

Нестандартнымі (з перавышэннем РДУ) былі прызнаны пробы ялавічыны, рыбы, кансерваваных садавіны, ягад, свежых грыбоў і лекавых раслін. Але трэба заўважыць, што гэтыя выпадкі былі адзінкавымі. Ні разу «не саграшылі» за 6 месяцаў малако і кісламалочныя прадукты, мяса птушкі, яйкі, масла, сухафрукты і хатняя агароднiна.

А самую вялікую небяспеку для здароўя ўяўляюць сушаныя грыбы (28 проб з перавышэннем РДУ з 82 даследаваных) і лясныя ягады (7 проб з перавышэннем РДУ з 49 даследаваных).

Дарэчы, грыбнікам карысна будзе ведаць, што да самых бяспечных грыбоў можна аднесці лісічкі, а вось зрываючы зялёнку, ваўнянку, грузд, рыжык, махавік ці масляк, трэба перастрахавацца: адно толькі папярэдняе іх адварванне зніжае ўтрыманне радыецэзію ў грыбах у 3—5 разоў. А вось пры сушцы колькасць радыенуклідаў практычна не зніжаецца, таму сушыць трэба толькі «чыстыя» грыбы.

Між іншым, гэты прадукт «засвяціўся» таксама і на прадпрыемствах грамадскага харчавання: 3 нестандартныя пробы былі выяўлены ў сталічным кафэ «Ластаўка» і рэстаране «Юбілейны». Ва ўсіх трох выпадках забруджаныя радыенуклідамі грыбы былі зняты з рэалізацыі і знішчаны.

Таму ўсім, каму неабыякава ўласнае здароўе, будзе карысна наступная інфармацыя: свой «ураджай» мінчане могуць праверыць у любой раённай службе гігіены і эпідэміялогіі, а таксама ў аддзеле радыяцыйнай гігіены Мінскага гарадскога цэнтра гігіены і эпідэміялогіі. Уся працэдура бясплатнага (!) аналізу займае 15 хвілін і праводзіцца ў прысутнасці заказчыка. Для яго патрабуецца ўсяго 1 кг даследуемай прадукцыі, пасля правядзення аналізу ўсе ўзоры кліенту вяртаюцца.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

— Наш банк гарантуе надзейнасць укладаў!

Малюнак Леаніда РАЗЛАДАВА.

*УРАДЖАЙ-96*

## ДА ПЫТАННЯ АБ ПАЛІВЕ...

**Што патрэбна**

Для належнага правядзення ўборачнай кампаніі па звестках, атрыманых карэспандэнтам «Звязды» ў Міністэрстве сельскай гаспадаркі і харчавання, на жнівень-верасень патрэбна 300 тысяч тон дызельнага паліва і 69 тысяч тон бензіну.

**Што ёсць**

З інфармацыі аб паступленні нафтапрадуктаў па стану на 8 жніўня 1996 года можна даведацца, што зараз у гаспадарках вобласці маецца 48.812 тон дызельнага паліва і 18.757 тон бензіну.

**Што рабілася для таго, каб знайсці выйсце з гэтай сітуацыі?**

Як вядома, у другой палове ліпеня на пасяджэнні ў прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь, на якім прысутнічалі старшыня праўлення Нацыянальнага банка Віннікава, старшыня праўлення «Беларусбанка» Ермакова, старшыня праўлення «Аграпрамбанка» Гаўрушаў, начальнік Галоўнага ўпраўлення эканомікі Мінсельгасхарча Дзегцярова і намеснік начальніка ўпраўлення аграпрамысловага комплексу Аўдзейчык, стаяла адно пытанне «Аб дадатковых мерах па фінансаваму забеспячэнню ўборкі ўраджаю 1996 года».

Было прынята наступнае рашэнне: «У мэтах забеспячэння гаспадарак нафтапрадуктамі і іншымі матэрыяльна-тэхнічнымі рэсурсамі адкрыць з 22 ліпеня 1996 года крэдытную лінію ў суме 500 мільярдаў рублёў за кошт продажу крэдытных рэсурсаў АКБ «Беларусбанк» Аграпрамбанку для выдачы крэдыту на выплату авансу вытворцам сельскагаспадарчай прадукцыі ў лік закупкі ў іх зерня ўраджаю 1996 года хлебапрыёмнымі прадпрыемствамі з умоўным тэрмінам пагашэння гэтых крэдытаў на працягу шасці месяцаў пры наступным пераафармленні яго на тэрмін перапрацоўкі зерня і рэалізацыі гатовай прадукцыі».

**Як размяркоўваліся сродкі?**

22 ліпеня 1996 года старшыні праўлення Белаграпрамбанка сп. Гаўрушаву была даслана наступная папера за подпісам міністра сельскай гаспадаркі сп. Лявонава: «Мінсельгасхарч просіць адкрыць крэдытную лінію на выплату авансаў за закупляемае зерне для дзяржаўных патрэб у суме 500 мільярдаў рублёў. Выдзеленыя рэсурсы ў суме 100 мільярдаў рублёў накіраваць Брэсцкаму і Гродзенскаму сельгасхарчам па 50 мільярдаў рублёў». Далей ішло размеркаванне з разліку 263.157 рублёў на тону з плана нарыхтоўкі зерня: Мінская — 114,5 мільярда рублёў; Гродзенская — 82,9; Брэсцкая — 78,9; Віцебская — 81,6; Магілёўская — 75, Гомельская — 67,1 мільярда рублёў.

**Яшчэ адна пастанова**

5 жніўня 1996 года было прынята чарговае распараджэнне Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь за № 741р «Аб выдзяленні нафтапрадуктаў калгасам, саўгасам і іншым сельскагаспадарчым прадпрыемствам для забеспячэння правядзення ўборкі ўраджаю і іншых неадкладных сельскагаспадарчых работ у 1996 годзе». Яна патрабавала адпусціць з дзяржаўнага рэзерву ў жніўні 1996 года ўсім вышэйпамянёным суб'ектам гаспадарання ў выглядзе таварнага крэдыту 60 тысяч тон дызельнага паліва і 20 тысяч тон аўтамабільнага бензіну па цане адпаведна 2.229.500 і 2.929.600 рублёў за тону (з вяртаннем у натуры ці ў грашовым выражэнні па дзеючых цэнах на момант вяртання), з размеркаваннем па абласцях прапарцыянальна тым сельскагаспадарчым угоддзям, якія ў іх маюцца».

**Правіла размеркавання і разліку**

Размеркаванне дадзеных нафтапрадуктаў робіцца наступным чынам: дызельнае паліва — 7686, аўтамабільны бензін — 2562 кілаграмы на гектар сельгасугоддзяў. Аплата за нафтапрадукты — да 1 сакавіка 1997 года. Прычым самая вялікая надбаўка складае 4 працэнты.

**Перспектывы**

Зараз цяжка гаварыць аб рэальных тонах паліва, атрыманых гаспадаркамі, адгрузка якога ідзе праз дзве рэспубліканскія нафтабазы і павінна завяршыцца толькі дзесьці да сярэдзіны жніўня. За крэдытныя грошы пакуль невядома колькі канкрэтна закуплена тон бензіну і дызельнага паліва. Спецыялісты Мінсельгасхарча прагназіруюць адно: усіх выдзеленых сродкаў яўна недастаткова, а без дапамогі дзяржавы сельская гаспадарка не пацягне ўвесь комплекс работ.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

### СМЕРЧ НАЛАМАЎ ДРЭЎ І... ДРОЎ

**Як ужо паведамляла «Звязда», месяц таму па тэрыторыі Міёрскага раёна Віцебскай вобласці пранёсся смерч, які выклікаў значныя разбурэнні.**

Аднаўленчыя работы вядуцца толькі жыхарамі Міёр (тут знесены дахі індывідуальных дамоў, паламаны дрэвы і тэлевізійныя антэны на суму 84 мільёны рублёў).

У гаспадарках жа раёна аднаўленчыя работы ідуць марудна: няма сродкаў на іх правядзенне.

Стыхія нанесла агульны ўрон на суму 959 мільёнаў 300 тысяч рублёў. Буйныя страты панеслі калгасы «Перамога» (185 мільёнаў), «Кастрычнік» (93), «Гігант» (80). Жыллёва-камунальнай службе нанесены ўрон у памеры 108 мільёнаў рублёў, службе электрасетак — амаль на 50 мільёнаў, дарожна-рамонтнаму будаўнічаму ўпраўленню — на 43 мільёны.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

### ФОТАСЛОВА

**Яўген ПЯСЕЦКІ**

Напавер, мой лес, напавер
Адпусці зацугляных коней —
Сталі горкімі травы ў прыгоне,
І стрыножвае востры аер,

Хоць хвіліну ды ў чыстае поле,
Хоць пад кулю — абы на волю...
Не шукаю такой свабоды,
Я не з імі — я тут назаўсёды.

Не імкнуся ў чужыя прасцягі,
Не чакаю чужых бліскавіц,
Бо ніяк не натоліцца смага
З прахалоды чужынскіх крыніц.

## МІНІСТЭРСТВАМ ЭКАНОМІКІ РАСПРАЦАВАНЫ ПЕРАЛІК МЭТАВЫХ ПРАГРАМ, ПА ЯКІХ НАША РЭСПУБЛІКА ГАТОВА СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ З РАСІЯЙ

Міністэрствам эканомікі, як стала вядома карэспандэнту «Звязды», на аснове прапаноў зацікаўленых устаноў беларускага і расійскага боку вызначаны папярэдні пералік мэтавых праграм, па якіх наша рэспубліка гатова супрацоўнічаць са сваім усходнім суседам.

Асноўная частка планаў накіравана на вырашэнне перш за ўсё сацыяльных праблем, сярод якіх асаблівая ўвага і прыярытэт аддадзены ліквідацыі вынікаў чарнобыльскай бяды.

Акрамя таго, у блок сацыяльных праграм уваходзіць распрацоўка і вытворчасць сродкаў пратэзавання, правядзенне медыка-сацыяльнай экспертызы і рэабілітацыі інвалідаў (у першую чаргу — дзяцей-інвалідаў), а таксама комплекс мераў па развіццю сеткі асабліва ахоўваемых прыродных тэрыторый, ахове лясоў ад пажараў.

Прадугледжаны распрацоўка і серыйны выпуск оптыка-механічнага абсталявання для зборкі звышвялікіх інтэгральных схем з тапаграфічнымі элементамі, аўтаматызаваных сістэм кіравання, бартавой радыёлакацыйнай апаратуры, вырабаў бытавой радыёі электратэхнікі.

Прапанавана весці сумесную селекцыйна-племянную работу, ствараць сумесныя прадпрыемствы па вытворчасці крухмалу, піўнога соладу, пладова-агародніннымх кансерваў і іншай прадукцыі.

Фінансавання, здольнага пераўвасобіць гэтыя добрыя намеры з папер у рэальныя справы, зараз проста не існуе. Уся сітуацыя, як аказваецца, складваецца даволі трывіяльна: намеціць — намецілі, а грошай няма. У бюджэце Беларусі за 1996 год не прадугледжаны сродкі на фінансаванне рэалізацыі ўсіх разглядаемых праграм. Таму зараз пра бюджэтнае крэдытаванне гаворка нават не вядзецца.

Працэс эканамічнай інтэграцыі «пайшоў», але калі будуць зроблены больш-менш канкрэтныя крокі ў гэтым накірунку, пакуль невядома. Пералік эканамічных і сацыяльных праграм, падрыхтаваных на аснове паступіўшых у Міністэрства эканомікі Рэспублікі Беларусь прапаноў ад іншых міністэрстваў і канцэрнаў нашай краіны, прадстаўлены ў парадку абмеркавання расійскаму боку. Справа — за ім...

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ Еўрапейскі банк рэканструкцыі і развіцця выдзеліў Беларусі крэдыт у памеры 6,5 млн. долараў на будаўніцтва мінскага аптовага рынку сельскагаспадарчай прадукцыі — **першага такога роду** ў краінах СНД.

❑ У бліжэйшы час на асобных пасажырскіх транспартных маршрутах Мінска **плануецца ўвесці** «новую — старую» **пасаду кандуктара,** а для барацьбы з «зайцамі» разам з кантралёрамі прыцягваць супрацоўнікаў міліцыі і АМОНа.

❑ На працягу бліжэйшага года з **Расіі ў Беларусь будзе экспартавана** да 12 млн. тон нафты, 16 млрд. кубаметраў прыроднага газу; **з Беларусі ў Расію** — 14—15 тыс. грузавых аўтамабіляў, прыблізна такая ж колькасць трактароў, 30 тыс. тон мяса і мясапрадуктаў, да 400 тыс. тон малака і малочных прадуктаў.

❑ Амаль 900 перыядычных выданняў было зарэгістравана ў Беларусі на пачатку 1996 года — пасля перарэгістрацыі, праведзенай Дзяржаўным камітэтам па друку, новыя пасведчанні на **права выхаду атрымалі пакуль толькі 614 газет і часопісаў.**

❑ Пасля многіх гадоў лячэння ад бясплоднасці 31-гадовая англічанка Мэндзі Элвуд цяпер чакае адразу восем малышоў — менавіта такая колькасць эмбрыёнаў вось ужо 14 тыдняў развіваецца ўнутры жанчыны.

❑ Па выніках сацыялагічнага апытання, праведзенага ў Польшчы, найбольшай папулярнасцю сярод палітыкаў карыстаецца там прэзідэнт Квасьнеўскі, а найбольшую непрыязнасць выклікае экс-прэзідэнт Валенса.

*ЯК НАС ДУРАЦЬ*

## «ШАХЕР-МАХЕР» З ДУЛЯЙ ДЗЯРЖАВЕ І КАМПАНЬЁНАМ

Вось яна, крымінальная справа ў чатырнаццаці тоўстых тамах, вынік цяжкай і напружанай работы супрацоўнікаў упраўлення ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкома. І з тае прычыны, што абвінавачанне людзям, якія хацелі абысці закон, ужо прад'яўлена, але справа яшчэ не разгледжана судом, прозвішчы нашых «герояў» мы ўказваць не будзем.

Зазначым толькі, што жыў-быў у Гродне чалавек, які атрымаў нашу айчынную вышэйшую эканамічную адукацыю і ў час славутай «перабудовы», а затым і распаду Савецкага Саюза, калі з'явіліся ідэальныя ўмовы ў рознага роду прайдзісветаў абводзіць вакол пальца родную дзяржаву, ён займеў хобі: ствараць у горадзе над Нёманам камерцыйныя структуры. А каб яны квітнелі, бралі крутыя пад'ёмы бізнесу з ходу-лёту і, значыць, сыпалі долары-маркі-рублі ў яго асабістыя кашалькі, працаваў у тых структурах як кіраўніком, так і галоўным бухгалтарам. І так навастрыўся ў гэтай рабоце, што выразна ўбачыў пралазы ў сістэме дзяржаўнага кантролю за дзейнасцю бізнесменаў.

Для пачатку ён вырашыў «праехацца» на такім «коніку». Як вядома, паміж урадамі СССР і іншымі краінамі існавалі пагадненні па куплі-продажу тавараў, якія выключалі двайное падаткаабкладанне даходаў. Выйшаўшы на сусветную арэну, наш бізнесмен заключыў заведама лжывы дагавор паміж сваім таварыствам з абмежаванай адказнасцю (у далейшым — таварыства) з адной кіпрскай фірмай аб тым, што таварыства быццам бы з'яўляецца камісіянерам фірмы. Гэта значыць выконвае яе даручэнні: робіць здзелкі па куплі-продажы тавараў. І пайшло-паехала — таварыства пачало прадаваць і купляць тыя тавары направа і налева, але не апрыходваючы іх, не ведучы ўліку разлікаў з пастаўшчыкамі і пакупнікамі: яно ж, разумееце самі, з'яўляецца ўсяго толькі камісіянерам і таму ніякай размовы аб уплаце падаткаў у поўным аб'ёме ў бюджэт Рэспублікі Беларусь быць не можа.

Такім чынам, прыкрываючыся ўяўнымі, а дакладней, фальшывымі здзелкамі з кіпрыётамі, таварыства паказала дзяржаве дулю з макам, што праз нейкі час засведчылі спецы з аддзела падатковых расследаванняў Гродна: не строй дурня, бізнесмен, а аддай у бюджэт падаткі ў суме 28.853.900 «зайчыкаў». А заадно і паўстань перад судом па ўзбуджанай крымінальнай справе.

Праўда, да лавы падсудных не дайшло, бо суду патрабаваліся дадатковыя даныя, і ён вярнуў справу на дасьледаванне. І тут у галаве бізнесмена роем пачалі круціцца ідэі — як пазбегнуць непрыемнасці, як абдурыць і суд, і спецоў з падатковай інспекцыі. І вось нарэшце: эўрыка! Трымайце, спадары-інспектары, дакуменцік. З самага Кіпра. Аб тым, што другая фірма па дамоўленасці з першай (аб ёй мы гаварылі вышэй) прымае на сябе абавязацельствы па дагаворах з таварыствам і выплачвае яму камісійнае ўзнагароджанне за супрацоўніцтва з першай фірмай. Вось і ўсё. Усё ў парадку, усё о'кэй. Крымінальная справа ляснула, яе закрылі. Натуральна, у той момант ніхто з правяраючых і падумаць не мог, што камерсант на сваім «коніку» зрабіў ход канём. Як выявілася пасля, тую другую фірму з дапамогай знаёмых на Кіпры стварыў ён сам. А свая рука, як гаворыцца, не ліхадзей: што хачу, тое і раблю, любую паперку магу выдаць з пячаткай...

(Заканчэнне на 3-й стар.)

## ПАСТАНОВА
### ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ
### Аб назначэнні дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання па шасцідзесяці адной выбарчай акрузе, дзе дэпутаты не выбраны

Цэнтральная камісія Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, зыходзячы з патрабаванняў артыкулаў 21 і 57 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь ад 31 мая 1996 года «Аб правядзенні дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» № 339-XIII, **пастанаўляе:**

1. Даручыць акруговым выбарчым камісіям у шасцідзесяці адной выбарчай акрузе, дзе дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь не выбраны, дадаткова правесці паўторныя выбары дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у нядзелю, 24 лістапада 1996 года.

2. Рэкамендаваць тэрытарыяльным выбарчым камісіям дадаткова правесці паўторныя выбары дэпутатаў адпаведных мясцовых Саветаў дэпутатаў у выбарчых акругах, дзе дэпутаты яшчэ не выбраны, таксама 24 лістапада 1996 года.

3. У адпаведнасці з артыкулам 25 Прым.2 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» абласным, Мінскаму гарадскому, раённым і гарадскім выканаўчым камітэтам, пры неабходнасці, правесці змяненні ў саставах акруговых, тэрытарыяльных і ўчастковых выбарчых камісій.

4. Перадвыбарныя мерапрыемствы пры правядзенні дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў у выбарчых акругах, дзе дэпутаты не выбраны, праводзяцца ў парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя законамі Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь» і «Аб выбарах дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь».

Галасаванне праводзіцца ўчастковымі выбарчымі камісіямі на тых жа выбарчых участках, па спісах выбаршчыкаў, удакладненых напярэдадні паўторных выбараў, а пры неабходнасці, па спісах выбаршчыкаў, складзеных нанава.

5. Растлумачэнні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў, якія дадзены ў 1995 годзе па прымяненню асобных артыкулаў Закона Рэспублікі Беларусь «Аб выбарах дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь», дзейнічаюць і пры правядзенні дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь трынаццатага склікання.

**В. а. старшыні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў А. ЖУК**

**Сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў І. ЛІХАЧ**

12 жніўня 1996 года.

## ВІКТАР ЧАРНАМЫРДЗІН ЗАЦВЕРДЖАНЫ КІРАЎНІКОМ УРАДА РАСІІ

Нечарговае пасяджэнне расійскай Дзярждумы ў мінулую суботу мае шанц стаць вызначальным для далейшага развіцця краіны: дэпутаты не проста выбіралі старшыню ўрада, але і вызначалі ўвесь новы курс развіцця грамадства. І хаця сама працэдура абмеркавання кандыдата і прыняцця рашэння сама па сабе не новая, але незвычайнай была палітычная аснова падзеі: упершыню, згодна з новай Канстытуцыяй, урад Расіі афіцыйна склаў свае паўнамоцтвы перад выбраным прэзідэнтам, а дэпутаты павінны былі вынесці свой вердыкт на рашэнне прэзідэнта Б. Ельцына прапанаваць на пасаду старшыні новага ўрада В. Чарнамырдзіна.

Неабходна падкрэсліць, што ў зале пленарных пасяджэнняў Дзярждумы сапраўды ўпершыню за колькі гадоў усталявалася дзелавая добразычлівая атмасфера. І нават не верылася, што пасля найвялікшага вэрхалу, які тут адбыўся год назад у сувязі з чарговай спробай апазіцыі выказаць недавер палітыцы ўрада В. Чарнамырдзіна, амаль усе дэпутацкія фракцыі прыхільна сустрэнуць свайго «вечнага апанента». Так, у настроі дэпутатаў, відаць, адбыўся карэнны пералом у падыходзе да ацэнак дзейнасці ўрада. Даклад кандыдата на пасаду старшыні ўрада, які доўжыўся 50 хвілін, быў выслуханы без палітычных эксцэсаў, уважліва. Называўся ён «Аб праграме асноўных напрамкаў дзейнасці ўрада Расійскай Федэрацыі».

Ёсць магчымасць пазнаёміць чытачоў газеты з некаторымі фрагментамі даклада. Яго ключавыя пазіцыі маюць значэнне, вядома, не толькі для расіян, але і для Рэспублікі Беларусь.

«У Расіі пачынаецца новы этап у эканоміцы — этап яе структурнай перабудовы. На першы план выходзяць задачы росту вытворчасці, павышэння яе эфектыўнасці. Адначасова са стабілізацыяй фінансаў, спыненнем росту цэн, умацаваннем рубля мы пачынаем падрыхтоўку і абсталяванне пляцоўкі для будучага эканамічнага росту. Вядома, фарміраванне ўмоў для пад'ёму і ажыўлення эканомікі, спосабы вырашэння спраў маюць значэнне самі па сабе, але куды больш важная задача — стабілізацыя і рост узроўню жыцця грамадзян Расіі. Галоўнае ў тым, што большасць расіян звязвае будучае краіны з працягам рыначных рэформаў, наданнем ім новай сацыяльнай якасці. Характэрна тое, што пры наяўнасці ўсіх ідэалагічных расфарбовак асноўныя напрамкі бачацца яскрава...

Адразу хачу заявіць, што я за карэкціроўку ў падыходзе да формаў і метадаў правядзення рэформаў, за выпраўленне асобных дапушчаных памылак. Перакананы, што час буйных, хуткіх і кідкіх арганізацыйных кампаній мінуў... Галоўны кірунак сёння такі: дзяржава павінна рэалізаваць свае натуральныя функцыі, правераныя практыкай цывілізаванага рынку ў прамыслова развітых краінах. Галоўнае ў гэтых функцыях — арганізацыя ясных і зразумелых «правілаў гульні» ў эканоміцы. Апіраючыся на права заканадаўчай ініцыятывы, неабходна перш за ўсё дабіцца дакладнай арганізацыі бюджэтных працэсаў, наладжвання такой падатковай сістэмы, якая стымулюе вытворчасць і інвестыцыі, забяспечвае плацежную дысцыпліну, павышэнне кіруемасці дзяржаўнай уласнасцю, развіццё прыватнага капіталу, кантролю за дзейнасцю манаполій, развіццё фондавага рынку...

Я прыхільнік таго, што ў зямлі павінен быць гаспадар. І рынак павінен быць. Яго трэба арганізоўваць. У нас сёння ёсць падсобныя гаспадаркі, шмат дачных і іншых спраў. У нас ёсць і фермеры. Не трэба баяцца рынку зямлі. Для зямельнага рынку трэба стварыць асобыя ўмовы. І іх трэба захоўваць, спаганяць з тых, хто парушае правілы. І яшчэ раз падкрэсліваю: без рынку, без прыватнай уласнасці па зямлю мы не абыдземся, мы проста не здолеем падняць Расію. Гэта ўсім трэба зразумець...

Галоўным напрамкам нашай знешняй палітыкі застанецца СНД. Інтэграцыйная садружнасць не мае альтэрнатывы. На ўсіх паверхах інтэграцыі ў рамках расійска-беларускіх дамоўленасцей, эканамічнага саюза СНД ідзе і будзе ісці будаўніцтва новых раўнапраўных і ўзаемавыгадных адносінаў. Ведаю, што некаму хацелася б убіць клін паміж нашымі краінамі, развесці нас па розных кутках. Заяўляю з усёй адказнасцю: гэтага наўрад ці ўдасца каму-небудзь дасягнуць...»

Пасля адказаў кандыдата на шматлікія пытанні дэпутатаў, адбылося тайнае галасаванне па прэзідэнцкай прапанове. У выніку за В. Чарнамырдзіна было пададзена 314 галасоў з усіх 395 прысутных у зале парламентарыяў.

**Леанід ФАДЗЕЕЎ,**
**уласны кар. «Звязды».**
*г. Масква.*

УРАДЖАЙ-96

# Ці будуць поўнымі засекі?

**Ідзе жніво. Збожжа паступае кругласутачна, і на элеватары няма спакою. І так будзе дзесьці да 21 жніўня, а затым наступіць спад. А пакуль што трыццаць пяць цяжкагрузных аўтамашын райсельгастэхнікі і транспарт калгасаў трох раёнаў возяць зерне на Баранавіцкі камбінат хлебапрадуктаў.**

Падвоз збожжа заканчваецца каля трох гадзін ночы, а самы пік прыпадае на адзінаццаць—дванаццаць гадзін дня. У гэты час перад элеватарам выстройваюцца дзесяткі аўтамашын.

Па словах начальніка элеватара В. Якімчыка, штодзень паступае каля 3 тысяч тон збожжа. Ужо засыпалі (на 10 жніўня) каля 15 тысяч тон, а прыняць элеватар можа 48 тысяч. Зерне сырое і вільготнае, і яго сушаць, каб давесці да неабходнай кандыцыі. Сушыльны агрэгат прапускае 540 тон у суткі.

Гэта знешні бок работы элеватара як аднаго з участкаў камбіната. Больш выразна сітуацыя акрэслілася пасля размовы з дырэктарам камбіната В. Станчыкам, які, нягледзячы на выхадны дзень, быў на працы.

З гаспадаркамі раёнаў прадпрыемства заключыла дагаворы на дзяржаўны заказ. На той час дамаўляліся плаціць з разліку 11.500 рублёў за долар, а сёння ўжо прыходзіцца разлічвацца па 13.900 рублёў. Тона фуражнай пшаніцы каштуе 180, а жыта — 140 долараў. Але праблема тут найперш не ў цане, а ў тым, што збожжа, якое паступае з нашых калгасных палёў, для камбіната вельмі мала.

Справа ў тым, што гэтае прадпрыемства павінна забяспечыць усе агромністыя жывёлагадоўчыя комплексы і птушкафабрыкі раёна камбікармамі, якія камбінат адпускае спраўна, а грошай за сваю прадукцыю не атрымлівае. Бо комплексы даўно бакруты. Напрыклад, «Усходні» павінен 9 мільярдаў, а птушкафабрыка «Дружба» — 6 і г. д. Па закону рынку ўсё проста: прадавайце сваіх свіней і курэй ды разлічвайцеся. У нас жа вузел зацягваецца ўсё тужэй. Вось для гэтых самых комплексаў патрэбна 80 тысяч тон камбікармоў у год, а калі сюды прыплюсаваць і попыт калгасаў, то гэтая лічба вырасце да 140 тысяч тон.

Харчовай пшаніцы камбінату неабходна 30 тысяч тон, а з Баранавіцкага, Ляхавіцкага і Ганцавіцкага раёнаў летась атрымалі толькі паўтары тысячы тон, сёлета ёсць надзея, што будзе завезена каля чатырох тысяч, а вось астатнія 26 тысяч тон прыйдзецца закупляць на Украіне і Расіі. Гэткая ж сітуацыя і з фуражным зернем. Пры рэальнай патрэбе ў 50 тысяч тон калгасы далі ў 1995 г. толькі 5 тысяч тон і крыху больш будзе ў гэтым. Вось такая сумная статыстыка. Праўда, нашы гаспадаркі могуць і больш здаваць, але пасля выканання дзяржзаказу яны маюць права астатняе збожжа прадаваць па адносна свабодных цэнах. Што і робяць.

Для аплаты расійскага збожжа ўзята 3 млрд. рублёў крэдыту. Шэсцьдзесят вагонаў збожжа паставіла камерцыйная фірма «Баргузін». Выходзіць, што і з камерсантамі можна мець справу. І той факт, што з Малдовы фірма «Акорд» адгрузіла камбінату кукурузы на 80 тысяч долараў, хаця ёй выплацілі пакуль што толькі 70 тысяч, сведчыць, як важна мець давер да партнёра пры дзелавых адносінах. Сёння сувязі падтрымліваюцца галоўным чынам з Расіяй і Украінай, а з Казахстана ў 1995 годзе збожжа не паступала.

І ўсё ж паводле разлікаў спецыялістаў, Беларусь магла б забяспечыць сябе збожжам, калі б удалося падняць ураджайнасць да 40 цэнтнераў з гектара, але перспектывы тут невялікія. Палі зарастаюць асотам ды лебядой. Праблема з хімікатамі, дакладней, няма грошай на іх закупку. Ды і з селекцыяй у нас не ўсё добра. Раней трыцікале (гібрыд пшаніцы і жыта) даваў да 60 цэнтнераў з гектара, а зараз тыя ж 20. Гэтая культура праз некалькі гадоў выраджаецца, патрэбна пастаяннае абнаўленне.

Яшчэ адзін нюанс. Прадукцыя Баранавіцкага камбіната хлебапрадуктаў самая танная на Беларусі. Адпускная цана пшанічнай мукі вышэйшага гатунку 5263 рублі за кілаграм, у той час як па рэспубліцы — 6200 рублёў. Дырэктар растлумачыў, што ён заўсёды стараўся рэальна глядзець на рэчы. І калі на прадпрыемствах горада ў нейкай эйфарыі пачалі падымаць зарплату ў некалькі разоў, то на камбінаце не пайшлі гэтым шляхам і засталіся ў выйгрышы: камбінат пакуль яшчэ трымаецца. Хаця і працуе на 65 працэнтаў сваёй магутнасці, але прэміі работнікам выплачвае рэгулярна.

Райспажыўсаюзаўскі гандаль сёння неплацежаздольны, і камбінат вырашыў сам прадаваць сваю прадукцыю. Восем гандлёвых пунктаў у Баранавіцкім і Ляхавіцкім раёнах даюць тавараабарот на 1 мільярд у дзень. І зусім добра было б, каб такія пункты былі ва ўсіх калгасах. Але ёсць абмежаванні на свабодны гандаль, ды і рэнтабельнасць не павінна быць вышэй за 8 працэнтаў.

Валянцін Іванавіч упэўнены: калі б быў свабодны рынак, то можна было б разгарнуцца. Камбікорм патрэбен Расіі, і там плацяць за яго намнога больш. Не супраць закупіць прадукцыю і Літва. А тут яшчэ ўстаноўка: да 10 лістапада цэны на прадукцыю не падымаць, хаця на збожжа яны растуць. Усё гэта моцна адаб'ецца на эканамічным стане прадпрыемства.

**Сымон СВІСТУНОВІЧ.**

# Крываве жніво бестурботнасці і абыякавасці да ўласнага жыцця

**З кожным днём у гаспадарках краіны ўсё большыя тэмпы набіраюць уборачныя работы, балазе, гэтаму спрыяе надвор'е. Адпаведна павялічваюцца нагрузкі на людзей і тэхніку, што часам прыводзіць да трагічных здарэнняў.**

Згодна з аператыўнай інфармацыяй Дзяржаўнай інспекцыі па ахове працы, транспартнай і пажарнай бяспецы, за апошні час у абласцях краіны падчас уборачных работ адбылося некалькі ўзгаранняў камбайнаў.

У прыватнасці, 11 жніўня цалкам згарэў «Дон-1500» у саўгасе імя Гараўца Сенненскага раёна. 8 жніўня машына такога ж тыпу была пашкоджана агнём у калгасе «Высакоўскі» Клімавіцкага раёна — у выніку перагрэву згарэла кабіна камбайна. Яшчэ некалькі дробных выпадкаў узгаранняў (якія былі хутка ліквідаваны і не нанеслі значнага ўрону) было зарэгістравана ў іншых раёнах, у прыватнасці Гродзенскай вобласці. Асноўнымі прычынамі здарэнняў, як правіла, былі замыканні электраправодкі і пераграванне агрэгатаў.

Разам з узгараннямі тэхнікі работнікаў Дзяржаўнай інспекцыі непакояць і няшчасныя выпадкі, што, нягледзячы на ўсе папярэджванні і прафілактыку, раз-пораз адбываюцца ў гаспадарках..

Так, за мінулыя два тыдні былі зарэгістраваны два няшчасныя выпадкі і абодва — з цяжкім зыходам. 8 жніўня ў калгасе імя Ціміразева Капыльскага раёна памочнік камбайнера быў заціснуты паміж камбайнам «Дон-1500» і прычэп-ёмістасцю. Чалавек у выніку атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні. 3 жніўня ў калгасе «Ленінскі шлях» Любанскага раёна на палявым зернятоку загінуў 8-гадовы хлопчык, які знаходзіўся там разам з бацькамі. Дзіця трапіла ў завальную яму, якая не была абсталявана ахоўнымі рашоткамі.

Улічваючы, што яшчэ працягваюцца школьныя канікулы, спецыялісты інспекцыі раяць бацькам быць надзвычай пільнымі і не браць з сабой на працу ў поле маленькіх дзетак.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

# Збожжа сёлетняга ўраджаю паступае з перавышэннем мінулагодняга ўзроўню вільготнасці

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў камітэце хлебапрадуктаў, узровень вільготнасці ў збожжы сёлетняга ўраджаю даволі высокі.**

Так, сярэднеўзважаная вільготнасць жыта па рэспубліцы складае 15,8 працэнта (15 працэнтаў у мінулым годзе), фуражу — 16,1 працэнта (13,7 працэнта). Па пшаніцы гэтая лічба яшчэ вышэйшая — 14,5 супраць 13,6 працэнта мінулагодняга паказчыка. Усё гэта ў сярэднім, а ў Віцебскай вобласці здаюць збожжа 46-працэнтнай вільготнасці. Спецыялісты Камітэта хлебапрадуктаў лічаць, што такі высокі ўзровень атрымліваецца таму, што пачалі занадта рана касіць збожжавыя, яшчэ зялёнымі і, не прасушыўшы, прама з камбайна, здавалі дзяржаве.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## Міхаіл МЯСНІКОВІЧ, кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі:

# «Нашы падыходы па прынцыповых пытаннях супадаюць і знаходзяць разуменне ў расійскага кіраўніцтва»

**Днямі завяршыўся трохдзённы рабочы візіт у Маскву кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Беларусі М. Мясніковіча. Прапануем вашай увазе фрагменты з яго прэс-канферэнцыі, якая адбылася ў цэнтральным офісе «Інтэрфакса», што тлумачаць пазіцыю кіраўніцтва рэспублікі па шэрагу пытанняў, якія цікавяць журналістаў.**

**Аб выніках свайго візіту ў Расію...**

— Мой рабочы візіт у Маскву перш за ўсё звязаны з рэалізацыяй Дагавора аб стварэнні беларуска-расійскай Супольнасці дзяржаў, падпісанага 2 красавіка ў Маскве прэзідэнтамі А. Лукашэнкам і Б. Ельцыным.

У Маскве адбыліся сустрэчы з прэм'ер-міністрам В. Чарнамырдзіным, кіраўніком Адміністрацыі Прэзідэнта Расіі А. Чубайсам, міністрам замежных спраў Я. Прымаковым, іншымі прадстаўнікамі кіраўніцтва Расіі. Абмяркоўваліся пытанні палітычнага і сацыяльна-эканамічнага становішча на Беларусі, шляхі вырашэння існуючых праблем, механізм рэалізацыі Дагавора аб Супольніцтве, узаемных кансультацыях дзвюх краін. Задаволены тым, што нашы падыходы па прынцыповых пытаннях супадаюць і знаходзяць разуменне ў расійскага кіраўніцтва.

У ходзе гутаркі з В. Чарнамырдзіным прыйшлі да высновы аб неабходнасці пачаць фарміраванне галіновых органаў, якія будуць рэгуляваць эканамічныя працэсы ў беларуска-расійскай Супольнасці. Гаворка, у прыватнасці, ідзе аб агульнай мытнай прасторы, адзіных энерга- і транспартных сістэмах, камунікацыях. Дасягнута разуменне таго, што пры прыняцці рашэнняў па гэтых пытаннях у першую чаргу будуць улічвацца дзеючыя Канстытуцыі нашых дзяржаў, недапушчальная дыскрымінацыя інтарэсаў бакоў, а выкананне агульнымі беларуска-расійскімі органамі кіравання дэлегаваных функцый, у тым ліку і тых, якія маюць наднацыянальную прымету, павінна ўлічвацца ў нацыянальных заканадаўствах.

У час сустрэчы з В. Чарнамырдзіным расійскі прэм'ер-міністр даў зразумець, што яго краіна, нягледзячы на існуючыя ўласныя праблемы, неабыякавая да ўсіх працэсаў, якія адбываюцца на Беларусі як у палітычнай, так і эканамічнай сферах. Прычым гатова дапамагчы рэальна, і словам, і справай. Такой жа пазіцыі прытрымліваецца А. Чубайс. Безумоўна, мы разлічваем у першую чаргу на ўласныя сілы і магчымасці.

Вялікая ўвага ў ходзе гутаркі ўдзялялася пытанням практычнай работы па далейшай дэмакратызацыі грамадска-палітычнага жыцця нашых дзяржаў. Адбыўся абмен думкамі па ўзаемадзеянню выканаўчай і заканадаўчай уладаў. Падкрэслівалася важнасць гэтай работы. Абмеркавалі праблемы, звязаныя з распрацоўкай бюджэтаў на будучы год. В. Чарнамырдзін быў таксама праінфармаваны аб комплексе мераў, распрацаваных на Беларусі, па аздараўленню эканомікі рэспублікі, намечаных структурных пераўтварэннях, у аснову якіх закладзены рыначныя прынцыпы.

Хацелася б асабліва падкрэсліць, што гутаркі мелі вельмі паважлівы, тактоўны і канструктыўны характар. Для сябе я адзначыў, што ў адносінах да Беларусі зусім адсутнічаюць нейкія «імперскія амбіцыі», спробы навязвання пункту гледжання, выгаднага выключна Расіі.

У ходзе перамоў была адзначана неабходнасць правядзення ўзгодненай структурнай эканамічнай палітыкі на цяперашняй стадыі развіцця нашых дзяржаў, прадухілення непатрэбнай канкурэнцыі вытворчасцей, фактычна дубліруючых адна адну. Навошта ўпустую траціць вялікія матэрыяльныя рэсурсы на стварэнне ў Расіі, напрыклад, яшчэ адной трактарнай вытворчасці, у той час калі забяспечваць патрэбнасць Беларусі і Расіі цалкам можа Мінскі трактарны завод?

Пры ўмовах рыначнай эканомікі, якая працуе паўнацэнна, наяўнасць вытворчасцей, што канкуруюць паміж сабой, цалкам нармальная. Павінна быць здаровая, цывілізаваная барацьба, пры якой слабейшае прадпрыемства прайграе. Аднак менавіта на цяперашнім этапе, калі як у Расіі, так і на Беларусі, не хапае сродкаў часам на «цыраванне дзірак», для аператыўных эканамічных мэтаў, мы не можам сабе дазволіць выдаткоўваць вялікія сродкі на стварэнне дубліруючых вытворчасцей.

**Аб сінхранізацыі рэформаў на Беларусі і ў Расіі...**

— Як і ў Расіі, на Беларусі праводзяцца рэформы ў эканоміцы і сацыяльнай сферы. Пры гэтым Мінск зыходзіць з неабходнасці ўважлівага, аб'ектыўнага вывучэння праблемы, стараецца прагназіраваць магчымыя варыянты вынікаў. Вывучаецца вопыт іншых дзяржаў, асабліва Расіі.

Выканкомам беларуска-расійскай Супольнасці распрацаваны асноўныя накірункі і этапы сінхранізацыі ходу эканамічных рэформаў у абедзвюх краінах. Задача — стварыць адзіную эканамічную прастору, дзе дзейнічаюць адзіныя правілы і нормы.

У апошні час на Беларусі асаблівая ўвага ўдзяляецца развіццю прадпрымальніцтва і прыцягненню інвестыцый. Не так даўно было створана новае адпаведнае міністэрства, Прэзідэнтам выдадзены ўказ аб стымуляванні прадпрымальніцкай дзейнасці, асабліва тых бізнесменаў, якія займаюцца вытворчасцю.

**Аб магчымых зменах у Канстытуцыі...**

— Беларусь цвёрда стала на шлях дэмакратычных пераўтварэнняў. Свядома і беспаваротна. Гэта патрабуе некаторых зменаў канстытуцыйных нормаў, што, у прынцыпе, можна рэалізаваць двума шляхамі: праз іх карэкціроўку парламентам ці праз рэферэндум — шляхам свабоднага волевыяўлення народа.

Прывяду прыклад неадпаведнасці існуючых канстытуцыйных нормаў жыццёвым рэаліям. Згодна з Асноўным законам Беларусі, Кабінет Міністраў не валодае правам заканадаўчай ініцыятывы. Гэта літаральна паралізуе дзейнасць урада. І такіх прыкладаў шмат.

**Аб «забароне» Прэзідэнта Беларусі на правядзенне мітынгаў...**

— У ходзе правядзення ў Мінску селектарнай нарады па праблемах будучай уборкі ўраджаю Прэзідэнт заклікаў лідэраў палітычных сіл устрымацца ад розных масавых палітычных акцый у гэты перыяд. Важна хутка і якасна сабраць ураджай. Дарэчы, добры ўраджай!

Ні аб якім увядзенні забароны на палітычную дзейнасць на Беларусі гутарка не вялася. Беларусь — маладая дэмакратычная дзяржава, Канстытуцыя якой гарантуе свабоду слова і правы чалавека.

**Аб прадастаўленні «палітычнага прыстанішча» лідэру БНФ З. Пазняку...**

— Ніякіх крымінальных спраў на З. Пазняка і С. Навумчыка на Беларусі не заводзілася. Пагрозы ўласнай бяспецы гэтым спадарам няма.

У кіраўніцтве самога БНФ неадназначна ўспрынята заява З. Пазняка, зробленая ў ЗША. Нядаўна ў прэсе прагучала думка аднаго з блізкіх саратнікаў кіраўніка БНФ — Ю. Хадыкі, які расцэньвае просьбу аб прадастаўленні прыстанішча жаданнем паправіць сваё матэрыяльнае становішча за кошт выстаўлення сябе палітычным выгнаннікам.

На маю ўласную думку, просьба аб прадастаўленні палітычнага прыстанішча ў ЗША з'яўляецца спробай стварыць вакол сваёй персоны ажыятаж і тым самым падтрымаць палітычны імідж, які моцна пахіснуўся пасля парламенцкіх выбараў, што прайшлі нядаўна ў рэспубліцы. Вядома, што дэпутацкі мандат не атрымаў ні адзін з прадстаўнікоў БНФ, якія балаціраваліся.

**Аб заяве В. Ілюхіна...**

— Бясспрэчна, мы павінны быць вельмі ўдзячныя В. Ілюхіну за клопат, які ён выказвае ў адносінах да лёсу Беларусі і дабрабыту яе народа. Асабліва прыемна, што гэта заклапочанасць была выказана дэпутатам Дзярждумы Расіі.

Разам з тым, зусім відавочна, што ў практыцы ўзаемаадносінаў паміж дзяржавамі, нават самымі брацкімі, існуе пэўны парадак абмену інфармацыяй, тым больш, калі яна мае канфідэнцыяльны характар.

Як унутры Беларусі, так і за яе межамі існуюць пэўныя сілы, якія праціўяцца збліжэнню беларускага і расійскага народаў, у рамках падпісаных 2 красавіка ў Маскве інтэграцыйных пагадненняў.

Менавіта гэтым, у прыватнасці, і тлумачыцца актыўнасць праварадыкальна настроеных лідэраў БНФ.

Наяўнасць у антыпрэзідэнцкіх сіл апоры за мяжой з'яўляецца бясспрэчным фактам. Пацвярджэннем гэтага з'яўляюцца нядаўнія беспарадкі ў Мінску, арганізаваныя ўкраінскімі нацыяналістычнымі групіроўкамі УНА-УНСО.

**Аб «фінансаванні» ўрадам Беларусі выбарчай кампаніі Г. Зюганава**

— Гэта чарговая хлусня, прыдуманая праціўнікамі беларуска-расійскага адзінства.

Добра відаць, што мэта гэтай непрыкрытай хлусні — убіць клін у добрыя адносіны, якія склаліся паміж лідэрамі Беларусі і Расіі.

**Аб пазіцыі Беларусі адносна прасоўвання НАТО на Усход...**

— Перш за ўсё мы павінны зразумець, што НАТО як ваенны блок, было створана ў часы «халоднай вайны». І, несумненна, альянс, з улікам жыццёвых рэалій, патрабуе рэфарміравання.

Перамяшчэнне буйных ваенных сіл НАТО да межаў нашай рэспублікі непрымальнае, а тым больш непрымальнае размяшчэнне паблізу Беларусі ядзернай зброі гэтага блока. Нядаўна Прэзідэнт А. Лукашэнка выказаў ініцыятыву аб стварэнні бяз'ядзернай зоны ў Цэнтральнай Еўропе, якую падтрымалі і парламент, і большасць палітычных сіл рэспублікі.

Радуе станоўчая рэакцыя на гэтую ініцыятыву многіх дзяржаў. Беларусь гатова стаць каардынатарам у падрыхтоўцы шырокамаштабнага пагаднення па гэтым пытанні.

ЁСЦЬ ІДЭЯ...

# ЛІЧЫЦЬ ПА-НОВАМУ

**Днямі ў сталіцы рэспублікі адбылася прэзентацыя Беларускай асацыяцыі ацэншчыкаў. Яна была створана невялікай групай высокакваліфікаваных прафесіяналаў—ацэншчыкаў нерухомасці і бізнесу.**

Старшыня савета асацыяцыі Ігар Бандарэнка асноўнай мэтай новай грамадскай арганізацыі лічыць стварэнне прымальных дакладных умоў рынку, які развіваецца, лабіраванне інтарэсаў маладых прагрэсіўных ацэншчыкаў і пасільнае садзейнічанне органам улады ў стварэнні заканадаўчай базы ў галіне нерухомасці. На жаль, сёння ацэначная дзейнасць аб'ектаў нерухомасці вельмі неэфектыўная. На Беларусі амаль усюды ўжываецца састарэлы балансавы метад ацэнкі кошту маёмасці. Балансавая ацэнка зводзіцца да таго, каб падсумаваць артыкулы выдаткаў, а затым памножыць атрыманую суму на каэфіцыент. Як правіла, ужыванне каэфіцыентаў, разлічаных Мінстатам, вядзе да скажэння рэальнасці і не дазваляе атрымаць сапраўдны кошт аб'екта нерухомасці. У той жа час амаль не ўжываюцца сучасныя метады ацэнкі — затратны, рыначны, даходны, якія апрабаваны ва ўсім свеце і вызначаюць сапраўдны рыначны кошт аб'ектаў. Метады ацэнкі кошту, альтэрнатыўныя балансаваму, не забаронены беларускім заканадаўствам і таму могуць выкарыстоўвацца ў ацэначнай практыцы.

Беларуская асацыяцыя ацэншчыкаў вітае ліцэнзаванне права правядзення ацэнкі неграшовых укладаў, якія ўносяцца ў статутныя фонды прадпрыемстваў, і лічыць неабходным увядзенне ліцэнзавання яшчэ двух відаў дзейнасці — ацэнкі нерухомасці і ацэнкі бізнесу.

Галоўнай задачай гэтай грамадскай арганізацыі стане падрыхтоўка спецыялістаў-ацэншчыкаў і абарона рынку нерухомасці ад непрафесіяналаў.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## ПАСТАНОВЫ

### Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Аб узнагароджанні Корзуна У.С. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую працу ў галіне капітальнага будаўніцтва ўзнагародзіць генеральнага дырэктара арэнднага прадпрыемства «Белэлектрамантаж» **Корзуна** Уладзіміра Сямёнавіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
23 ліпеня 1996 г. Мінск. № 503-XIII

**Аб узнагароджанні Сапранецкага М.К. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую працу, вялікі асабісты ўклад у развіццё сельскагаспадарчай вытворчасці раёна ўзнагародзіць старшыню калгаса імя XXII з'езда КПСС Крычаўскага раёна **Сапранецкага** Мікалая Кірылавіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
23 ліпеня 1996 г. Мінск. № 504-XIII

**Аб узнагароджанні навукова-педагагічных работнікаў Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя М.Танка Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую навукова-педагагічную дзейнасць узнагародзіць Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

**Бондара** Васіля Аляксандравіча — прарэктара па навуковай рабоце, дацэнта.

**Гаўрош** Ніну Васільеўну — прафесара кафедры беларускага мовазнаўства.

**Грыгор'еву** Тамару Аляксееўну — загадчыцу кафедры сурдапедагогікі, дацэнта.

**Космача** Генадзя Аркадзьевіча — загадчыка кафедры ўсеагульнай гісторыі, прафесара.

**Панько** Лізавету Аляксандраўну — прафесара кафедры агульнай і дзіцячай псіхалогіі.

**Стэльмашука** Мікалая Трафімавіча — загадчыка кафедры матэматычнага аналізу, дацэнта.

**Цернавога** Алега Сяргеевіча — загадчыка кафедры філасофіі, прафесара.

**Шнепермана** Льва Барысавіча — прафесара кафедры алгебры і геаметрыі.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
23 ліпеня 1996 г. Мінск. № 505-XIII

**Аб узнагароджанні Радкевіча У.А. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую плённую навукова-даследчую і педагагічную працу ўзнагародзіць прафесара кафедры заалогіі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта **Радкевіча** Усевалада Анатольевіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
23 ліпеня 1996 г. Мінск. № 506-XIII

**Аб узнагароджанні Краўчанкі І.Р. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За дасягнутыя поспехі ў навучанні і выхаванні падрастаючага пакалення ўзнагародзіць дырэктара Кармянскай сярэдняй школы Добрушскага раёна **Краўчанку** Івана Рыгоравіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
23 ліпеня 1996 г. Мінск. № 507-XIII

**Аб узнагароджанні Шутава П.П. Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь**

Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

За шматгадовую добрасумленную работу ў друку, высокае прафесійнае майстэрства ўзнагародзіць галоўнага рэдактара жлобінскай аб'яднанай газеты «Новы дзень» **Шутава** Пятра Піліпавіча Ганаровай граматай Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
23 ліпеня 1996 г. Мінск. № 508-XIII

ПОГЛЯД

## Уладзімір ГАНЧАРЫК, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў, дэпутат Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь:

# «У любым выпадку прафсаюзы будуць на баку працоўных»

**— Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі ўсё больш мусіруецца трывога з нагоды абвастрэння сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы і набліжэннем у сувязі з гэтым палітычнага крызісу. Некаторыя публікацыі дыхаюць ужо прадчуваннем нейкіх сацыяльных узрушэнняў. Уладзімір Іванавіч, хацелася б пачуць, якую пазіцыю займаюць цяпер прафсаюзы, што ўваходзяць у Федэрацыю, і якая ваша думка аб шляхах выхаду з крызіснага становішча.**

— Што датычыцца сітуацыі ў рэспубліцы, то я нагадаў бы словы нашага Прэзідэнта, якія ён сказаў на сумесным пасяджэнні Савета бяспекі і Кабінета Міністраў: пагроза эканамічнай бяспецы краіны стала рэальнасцю. Мяркую, што гэтым выказваннем можна абмежавацца, падмацаваўшы яго ацэнкай таго, што здарылася ў эканоміцы. Да некаторых «плюсаў» урад адносіць, скажам, такія пазітыўныя моманты: удалося збіць інфляцыю (не кажучы пры гэтым, якой цаной і што нанесена вялікая шкода экспарту, што спыніліся многія прадпрыемствы); удалося стабілізаваць курс рубля (замоўчваецца, ці адпавядае ён інтарэсам вытворчасці) і г. д.

Калі глядзець аб'ектыўна, то што ж адбылося? Стымулаў да росту вытворчасці не створана, на прадпрыемствах па-ранейшаму масавыя прастоі, беспрацоўе, стагнацыя. Самы аб'ектыўны паказчык гэтага — неплацяжы, крызіс у банкаўскай сферы, дэфіцыт гандлёвага балансу, цяжкасці фарміравання бюджэту. Працяглыя затрымкі з выплатай мізэрнай зарплаты, не кажучы ўжо пра пенсіі, выклікаюць усё большую незадаволенасць людзей. Да нас звяртаюцца з пісьмамі аб дапамозе мноства пенсіянераў і тых, хто апынуўся на мяжы выжывання, без сродкаў да існавання.

Так што Прэзідэнт А. Лукашэнка мае рацыю ў сваёй ацэнцы сітуацыі, яе нельга не прызнаць вельмі цяжкай. Узнікае пытанне, што рабіць. Цяпер распрацоўваюцца некалькі праграм выхаду з крызіснага становішча. На маю думку, патрэбна адна праграма, якая б злучыла ўсе рацыянальныя напрацоўкі. Але для гэтага трэба вызначыць зыходныя пазіцыі нашых дзеянняў і намаганняў у сферы эканомікі. Сумняваюся, што яны ў прэзідэнцкай камандзе сёння ёсць. Мяркую аб гэтым па тым, што ў кіраўніка дзяржавы даволі супярэчлівыя погляды на вырашэнне некаторых ключавых эканамічных і сацыяльных пытанняў. Таму спачатку на ўсіх узроўнях трэба вызначыцца, ад чаго, ад якой печкі танцаваць, г. зн. куды ісці і да якой мэты. Без гэтага немагчыма прымаць правільныя рашэнні. Ніякія запэўніванні выканаўчай улады ці Вярхоўнага Савета ў тым, што яны маюць рацыю, што ім давярае народ, які іх абраў, не даюць права на неаб'ектыўныя ацэнкі.

Далей. Відавочна ненармальная сітуацыя, калі Адміністрацыя Прэзідэнта дзейнічае сама па сабе, а ўрад — сам па сабе. Узнікае мноства нестыковак, непрадуманых рашэнняў, іх пастаяннае спазненне. Вазьміце той жа прыклад з рэгістрацыяй суб'ектаў гаспадарання, камерцыйных структур. Хто падлічыў, да якіх выдаткаў прывяла тут непаслядоўнасць уладаў?

І яшчэ. Трэба прызнаць, што на пэўных этапах развіцця эканамічная, сацыяльная і іншая палітыка дзяржавы патрабуе дакладнай карэкціроўкі (з гісторыі мы ведаем нямала прыкладаў гэтага). Гнуткая палітыка, адэкватная ўзнікаючай сітуацыі, патрэбна зараз рэспубліцы. Яна не павінна быць сілавой, патыхаючай ваенным камунізмам, а такой, якая б стымулявала і вытворчасць, і спажыванне. Тут зноў жа пытанне ўпіраецца ў агульны падыход. А далей ідзе звычайная, хоць і цяжкая праца — робіцца разлікі, выпрацоўваюцца адпаведныя механізмы, тактыка выканання. Толькі тады прынятая праграма дасць эфект.

Дарэчы, спецыялісты ФПБ актыўна ўдзельнічаюць у звядзенні гэтых праграм у адну, натуральна, асноўную ўвагу ўдзяляючы сацыяльным праблемам. Калі казаць больш дакладна, то галоўнай мэтай праграмы павінна быць захаванне перспектыўных працоўных месцаў і стварэнне новых. Тым самым аўтаматычна, умоўна кажучы, вырашыцца і пытанне заработнай платы.

**— Але што трэба разумець пад змяненнем эканамічнай палітыкі? Бо калі Прэзідэнт кажа — усё быццам правільна, усе яго разумеюць. Але практычныя дзеянні потым цяжка паддаюцца нармальнай логіцы, цвярозаму розуму...**

— У чым тут прычына? Так, трэба праводзіць рэформы. Але якія? Марудныя — асуджаюць на спазнанне. Але грунтоўна думаць — гэта не азначае ісці марудна. Не спяшацца — таксама не азначае ісці марудна.

Тут патрэбна «залатая сярэдзіна». Няпроста ж прымаць рашэнні ў фінансава-крэдытнай сферы, па абменнаму курсу рубля. Але неабходнасць гэтага відавочная. Валютныя рэсурсы Нацбанка вычарпаны. Цяпер патрэбна прывязка нацыянальнай валюты да расійскага рубля, з пэўным «люфтам», скажам так, да курса долара, не наносячы пры гэтым шкоды эканоміцы.

Ізноў наступаю на балючы мазоль — выплату зарплаты, з якой напрамую звязаны спажывецкі попыт, стымулы да працы. Нягледзячы на ўсе меры, запазычанасць па зарплаце ўзрастае, яна перавысіла ўжо 1 трыльён рублёў. Асабліва абвастрылася гэтая праблема ў сельскай гаспадарцы. ФПБ звярнулася да Кабінета Міністраў з прапановай, як разлічыцца з пазыкамі на вёсцы.

У адной з публікацый у «Беларускім часе» (№ 29) была перакручана мая думка адносна стварэння працоўных месцаў у прадпрымальніцкіх структурах. Я выступаю за тое, каб чалавек меў працоўнае месца (гэта мэта прафсаюзнага руху), меў магчымасць працаваць і зарабляць на жыццё. У гэтым і праяўляецца яго сацыяльная абарона на прадпрыемствах незалежна ад формаў уласнасці. Упэўнены: калі ў цэнтр увагі не будзе ставіцца пытанне зарплаты, забеспячэнне яе выплаты, ні пра якую сацыяльна арыентаваную эканоміку гаворка не можа ісці. Карацей кажучы, і неплацяжы, і экспарт, і рэструктурызацыя эканомікі, і рынак працы, і новыя працоўныя месцы, эфектыўнасць інвестыцыйнай палітыкі і г. д. — усё павінна быць вызначана, скарэкціравана ў новай эканамічнай палітыцы. Вырашым гэтыя праблемы — тады зможам гаварыць пра падыходы да стабілізацыі і палітычнай сітуацыі.

**— Цяпер напрошваецца такое пытанне: раптам з'явілася вядомая заява «сямёркі» з рэзкай ацэнкай сацыяльна-эканамічнага становішча ў рэспубліцы і палітыкі Прэзідэнта. За гэтым адбыўся бурны ўсплёск палітычных страсцей. Якую пазіцыю тут занялі прафсаюзы?**

— Перш за ўсё скажу, што гэты дакумент узнік не раптам, ён выкліканы самім становішчам. У цэлым я яго не лічыў патрэбным падпісваць, паколькі прафсаюзы — непалітычная арганізацыя. А што датычыцца ідэі «круглага стала», то мы яе падтрымлівалі і падтрымліваем, зыходзячы з асноўнага нашага прынцыпу — забяспечваць стабільнасць у грамадстве. «Круглы стол», калі ён адбудзецца, для нас не самамэта, а магчымасць дыялогу для выпрацоўкі больш выверaных рашэнняў.

Па вялікаму рахунку, усім нам, у тым ліку і Прэзідэнту, трэба вызначыцца (не эмацыянальна, а дакладна і паслядоўна) па эканамічных і палітычных крытэрыях. Гаворым пра стабілізацыю, а жыццёвы ўзровень большасці людзей знізіўся — гэта факт. З гэтага і трэба зыходзіць, не робячы ніякіх захадаў, якія парушаюць Канстытуцыю. Нікому, у тым ліку і кіраўніку дзяржавы, не дазволена яе не прытрымлівацца.

**— Якія ж фактары, на ваш погляд, дэстабілізуюць палітычнае становішча на Беларусі? Ужо і Вярхоўны Савет быццам устаўляе палкі ў колы стабільнасці...**

— Я дэпутат Вярхоўнага Савета і не прымаю агульную крытыку яго з боку Прэзідэнта. Так, у парламента ёсць памылкі і недахопы. Гэта і натуральна, тым больш, што сюды прыйшлі новыя людзі, прычым не з чорнага хода, іх абраў народ. І не трэба скардзіцца на люстэрка. Вярхоўны Савет — гэта свайго роду адбітак грамадства. Так, сёння там такая расстаноўка палітычных сіл: ёсць камуністычная, дэмакратычная, сацыял-дэмакратычная частка дэпутатаў і г. д. Многія плыні прадстаўлены ў Вярхоўным Савеце, і ён з'яўляецца свайго роду злепкам грамадства. У рэшце рэшт, з гэтым трэба лічыцца, а не падганяць парламент пад адзін пункт гледжання.

Ну, а калі паставіць пытанне так: ці выкарыстаў Прэзідэнт свае канстытуцыйныя паўнамоцтвы, каб забяспечыць эканамічную і палітычную стабільнасць, правы і свабоду грамадзян? Далёка не — гэта трэба прызнаць. Не ўдалося многае зрабіць і Вярхоўнаму Савету. Дык вось, выйсце тут — ва ўзаемадзеянні гэтых галін улады. Не трэба шукаць новых вінаватых. Ужо чуюцца тлумачэнні: Канстытуцыя ў свой час рабілася «пад Кебіча». Скажыце, хто хоча, каб яна рабілася зараз пад А. Лукашэнку, а прыйдзе другая асоба — і пад яе? Я не хачу, каб мае дзеці і ўнукі жылі ў дзяржаве, дзе ўсё залежала б ад аднаго чалавека, ад яго здароўя, настрою, уласных якасцей...

Не прымаю і беспадстаўных абвінавачванняў у адрас парламента, маўляў, 200 дэпутатаў атрымліваюць зарплату на ўзроўні міністраў. Уласна я і многія іншыя парламентарыі не атрымліваем іншых сродкаў, акрамя як на расходы па дэпутацкай дзейнасці.

Несумненна, трэба паляпшаць заканадаўства. Таму ўлады павінны працаваць разам. Гэта найважнейшы прынцып. Вярхоўны Савет (арт. 83 Канстытуцыі РБ) «...вызначае асноўныя накірункі ўнутранай і знешняй палітыкі Рэспублікі Беларусь...» Я прапанаваў камісіі, каб гэтыя накірункі былі прыняты як закон, у рамках якога выканаўчая ўлада забяспечвала б вырашэнне пытанняў эканомікі і палітыкі.

Кажуць, маўляў, Канстытуцыя недасканалая. Але не трэба рабіць яе «казлом адпушчэння» — не заміная яна. Перашкаджаюць амбіцыі, часам неразуменне адзін аднаго, жаданне загнаць некага ў кут, каб нешта вырашыць. Не вырашыць пры такім падыходзе.

**— Якая ж тактыка дзеянняў прафсаюзаў у гэтых умовах?**

— Мы зыходзілі і будзем зыходзіць з прынцыпу сацыяльнага партнёрства. У рамках яго ФПБ выступае за тое, каб быў мір у грамадстве, каб усе праблемы вырашаліся шляхам перамоў. Адсюль і вялікія намаганні па заключэнню Генеральнага і галіновых тарыфных пагадненняў, калдагавароў, перамовы з урадам і работадаўцамі. Хтосьці называе іх бессэнсоўнымі, з чым я катэгарычна не згодны. Бо ў рэшце рэшт любыя шэсці, пікеты, забастоўкі прыводзяць да тых жа перамоў. У той жа час ФПБ не адмаўляла і не адмаўляе неабходнасць і масавых дзеянняў.

Правялі мы, напрыклад, буйную нараду прафсаюзаў прамысловасці, дамовіліся аб тэрмінах прыняцця рашэнняў урадам. Ёсць станоўчая рэзалюцыя Прэзідэнта на даручэннях Кабінету Міністраў. У верасні падводзім вынікі. Не выкананы нашы патрабаванні — вызначаемся, раімся ў пярвічных арганізацыях наконт нашых далейшых, ужо масавых, дзеянняў. Людзі павінны быць да гэтага падрыхтаваны.

Прафсаюзы павінны быць настолькі ўплывовымі, настолькі і мудрымі, умець своечасова знайсці прымальныя рашэнні. Нельга падаграваць сітуацыю, але і цягнуцца ў хвасце падзей — таксама. Важна мець рэальную падтрымку людзей. Разнабой, адыход ад адзінства могуць загубіць прафсаюзны рух. Метады, тактыку дзеянняў трэба спалучаць, не адмаўляючыся ад розных іх формаў. Пры гэтым прафсаюзам не трэба ўцягвацца ў палітычныя гульні.

**— Давайце разбяромся ў тэрміналогіі, у ярлыках. ФПБ часам называюць афіцыйнымі прафсаюзамі, а яе пазіцыю буфернай...**

— У Федэрацыі ніякай «буфернасці» няма. Ёсць калектыўная пазіцыя, выпрацаваная на яе з'ездзе, пленумах, прэзідыумах Савета.

Нехта назваў сябе «свабоднымі» ці «незалежнымі». Але паглядзіце ў Статут Федэрацыі — там запісана: ФПБ — гэта добраахвотнае незалежнае аб'яднанне прафсаюзаў. Прымаючы калектыўнае рашэнне, зыходзім з абставінаў, з разумення сітуацыі, эканамічных і палітычных задач, думкі прафсаюзаў, пярвічных арганізацый. Не выпадкова замежныя эксперты, у прыватнасці спецыялісты МАП і іншых міжнародных арганізацый, памянялі свае погляды ў ацэнцы дзейнасці ФПБ. Адносіны да Федэрацыі, яе ўплыву ўжо іншыя, чым былі, скажам, два гады таму. Усе разумеюць, што тыя пытанні, якія разглядаюцца ў Вярхоўным Савеце пры фарміраванні заканадаўчай базы, вырашаюцца пры актыўным удзеле ФПБ. Прафсаюзы ўзялі на сябе вырашэнне многіх надзённых праблем. Да прыкладу, калі б не намаганні ФПБ, гэтым летам у лагерах адпачынку не было б трэцяй змены. Падтрымку культуры, спорту, і вельмі значную, таксама нельга скідваць з рахунку.

**— Такім чынам, калі коратка падвесці вынікі нашай размовы, з чым гатова ФПБ сесці за «круглы стол»?**

— У нас ёсць канкрэтныя прапановы, яны даведзены да ведама ўрада і датычацца карэкціроўкі сацыяльнага і эканамічнага курсу. Трэба забяспечыць стабільнасць у рэспубліцы і выкананне законаў, правоў працоўных, правоў прафсаюзаў. Мы не будзем маўчаць, калі парушаецца закон. Як бы ні склалася далей сітуацыя, у любым выпадку прафсаюзы будуць на баку працоўных.

**Гутарыў Васіль РОШЧЫН.**

# «Пачатак навучальнага года для беларускіх настаўнікаў сёлета будзе даволі сумным святам»

**Карэспандэнт «Звязды сустрэўся з намеснікам старшыні Рэспубліканскага камітэта прафсаюза работнікаў адукацыі і навукі Валянцінай БАЙКОВАЙ.**

**— Валянціна Аляксандраўна, у якім стане зараз знаходзіцца выплата заработнай платы настаўнікам?**

— На працягу апошніх шасці месяцаў сітуацыя з выплатай настаўніцкага заробку заставалася даволі складанай. А з пачаткам пары водпускаў стала яшчэ горшай, наблізіўшыся амаль да катастрафічнай. Так, 7 чэрвеня бягучага года лічба запазычанасці складала 16,48 мільярда рублёў (тады пайшла ў водпуск першая «хваля» педагогаў). Потым запазычанасць крыху зменшылася, а 21 чэрвеня склала 172,18 мільярда рублёў.

Дзякуючы актыўным дзеянням галіновага прафсаюза і дапамозе дзяржавы крывая недададзеных настаўнікам грошай зноў папаўзла ўніз (51,68 мільярда рублёў), калі пачынаўся чарговы адыход педагогаў у водпуск, — а потым зноў павялічылася амаль у тры разы і склала 139,04 мільярда.

Такім чынам, можна адзначыць, што сітуацыя з запазычанасцю па заработнай плаце настаўнікаў заставалася ўвесь час амаль некіруемай. Таму мы і запатрабавалі, каб гэта пытанне было ўключана ў шэраг іншых, якія павінны былі разглядацца на чарговым пасяджэнні Нацыянальнага савета.

**— Якія ж вынікі разгляду?**

— Ведаеце, зараз яшчэ вельмі цяжка нешта казаць аб выніках, бо пратакол пасяджэння дагэтуль не пайшоў на месцы, трапіўшы ў галіновы прафсаюз толькі 9 жніўня. У ім было запісана аб неабходнасці пагашэння запазычанасці па ліпеньскай заработнай плаце і грашах на адпачынак да 10 жніўня!

Таму можна сказаць, што пастанова Нацыянальнага савета выканана не будзе.

**— За кошт чаго можа адбыцца зніжэнне ўзроўню запазычанасці?**

— За кошт папераджальных датацый. Толькі такім чынам. Раней добра ішлі грошы з мясцовых бюджэтаў, працавалі прадпрыемствы, а зараз дзе ўзяць грошы раённым выканаўчым уладам? Таму і чакаюць рэспубліканскіх датацый, а калі яны заканчваюцца — зноў узрастае агульная лічба запазычанасці і пэўная колькасць настаўнікаў застаецца без заробку.

**— Ці можна ў такой сітуацыі нешта прапанаваць для меней балючага вырашэння праблемы?**

— Прафсаюзы даўно прапаноўвалі вырашыць гэтую праблему праз папярэдняе накапленне грошай. Сфера адукацыі — унікальная, нідзе няма такога масавага адыходу працуючых у водпуск, які, дарэчы, у настаўнікаў даволі вялікі.

**— Ну, і настрой 1 верасня ў беларускіх педагогаў у сувязі з няхваткай грошай будзе адпаведны...**

— Нядаўна на рынку я сустрэла настаўніка геаграфіі з Пружанскага раёна (даведалася, калі разгаварыліся), які гандляваў памідорамі. «Як інакш пражывеш, — сказаў ён мне, — калі грошай зусім не плацяць». Ведаеце, як брыдка стала на душы, а гэты ж чалавек першую кваліфікацыйную катэгорыю мае і прыехаў у Мінск гандляваць вырашчанай садавінай, каб вучням у вочы не глядзець.

Ну, а пачатак навучальнага года будзе сёлета для беларускіх настаўнікаў даволі сумным святам. І нават крыўдным, таму што прапанова аб выплаце жнівеньскага заробку ў жніўні адсоўваецца дзесьці на другую палову верасня.

**Гутарыў Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

